СТУДЗЕНЬ

# ЛІТЭРАТУРНАЯ СТАРОНКА

Месячнік
Літэратуры,
Мастацтва і
Крытыкі



№ 1 1934 г.

# ЗЬМЕСТ.


| | | стар. |
|---|---|---|
| 1. | Дэклярацыя | 1 |
| 2. | **Янка Чабор** — Заклік — верш | 5 |
| 3. | **Янка Чабор** — Гэй, арліна мая сіла — верш. | 6 |
| 4. | Пачын падтрымайце чынам. | 7 |
| 5. | **М. Васілёк** — Я пішу як магу — верш. | 8 |
| 6. | **М. Васілёк** — Зьмяя, катору ўзгадавала — верш. | 9 |
| 7. | **М. Васілёк** — Пад гукі струн.. | 9 |
| 8. | **М. Руніч** — На новым этапе. | 10 |
| 9. | **Зьвястун** — Моладзі-верш | 12 |
| 10. | **Фр. Грышкевіч** — Калі я раз... — верш | 13 |
| 11. | **Анатоль Іварс** — Вёска — верш | 14 |
| 12. | **Наста** — Пад белымі крыжамі | 14 |
| 13. | Там дзе шуміць каласістае гора — верш | 16 |
| 14. | **Міхтар** — Расказ | 17 |
| 15. | **У. Т.** — Наперад — верш. | 18 |
| 16. | **Алесь Салагуб** — А хто ў полі?... — верш | 19 |
| 17. | **Лявон Кручкоўскі** — На што мужыкам школа. | 20 |
| 18. | **А. Л-скі** — У вастрозе — верш | 24 |
| 19. | **Пятрусь Граніт** — Каваль — верш | 25 |
| 20. | **Ю. Б—а** — Хай доля.. — верш | 25 |
| 21. | **У—р Шчыры** — Дзяўчыне — верш | 26 |
| 22. | **А. Рэдзька** — Мы — верш | 27 |
| 23. | **Міхась Ліст** — Што ты Нёман.. — верш | 27 |
| 24 | **Н. Жальба** — Акрыльрай думку... — верш | 28 |
| 25. | **К—с** — Плача восень — верш | 28 |
| 26. | Літэратурны фронт. **Мікола Засім** — Прашу слова. **Фр. Гр.** — Мастацкая літэратура Грамады | 29 |
| 27. | Адказы рэдакцыі. | 30 |
| 28. | У віры жыцьця | 32 |


---

## Варункі прэнумэраты:

На год 6.— зл. Паасобны номер 0.50 зл.

---


Выдае ЯНКА ПАТАПОВІЧ. Рэдагуе Рэдколегія. За рэдакцыю адказвае ЯНКА ПАТАПОВІЧ.

---

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, вуліца Пілсудскага 9, кв. 9.

# ЛІТЭРАТУРНАЯ СТАРОНКА

**МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ**

№ 1 | 25 Студзеня, 1934 г. | Год І




# Деклярацыя

## ГРУПЫ ПОЭТАЎ ДА ЎСІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

У агні, крыві і бурах, соцыяльных і нацыянальных рухах, радзілася, расла і мацнела літэратура, жывая творчасьць працоўнага народу Беларусі.

Вайною, нямецкаю акупацыяй, жыцьцёвымі ўмовамі, наш люд прымушаны быў вандраваць па сьвету. Ён адведаў Каўказ, Ташкент, быў на Далёкім Усходзе, Сібіры, у Маскве і на скалах сівага, вечна маўклівага Уралу.

Ён, наш сярмажны брат жыў і працаваў на чыгунках, фабрыках, заводах, у рускага абшарніка, багатага мужыка, разам з работнікам, батраком-парабкам, бедным селянінам расейскім, татарскім, башкірскім, чувашскім, украінскім, армянскім, цюрынскім, сартам у Сярэдняй Азіі, кіргізам у Тургайскіх ды Акмалінскіх стэпах, з кітайцамі, манголамі і дзясяткамі другіх народаў, з якімі разам у шэрай шынэлі гніў тры гады ў вакопах, бліндажах, баявых траншэях, па схібах карпатскіх вяршын, на францускай зямлі і на родных абшарах змочваў глебу крывёю сыноў, адзначаючы трупамі шлях.

Ня было друкаванага слова, дзе-бы можна было, вырваўшы з моцна набракшых грудзей у кроў запекшыйся гнеў і пратэст — кінуць у вочы тым, хто на золата тысячы душ памяняў.

У гэтым гневе-пратэсьце, соцыяльнай злосьці, з гэтых умоў кайданамі скованага мільённага народу — паднімаліся расткі на прасякшай потам, сьлязьмі і кроўю зямлі: у песьнях, апавяданьнях, вершах, на кавалку акопнай паперы, расткі мастацкай літэратуры прыгнечанага, расьцярушанага па сьвету беларускага працоўнага народу.

Час не стаяў на мейсцы. Ён, як гарачая лява мэталю, распаляная жыцьцём людзей, жыцьцём жывога чалавека, нішчыў на сваім

шляху ўсё, што стаяла перашкодаю, што хацела ўстрымаць жалезныя крокі наперад.

Расплавіліся кайданы трохсотгадавога панаваньня Раманавых. Гнеў народу выйшаў з берагоў і, як хвалі бушуючага мора, з рэвам і рогатам біў у астатнія крэпасьці расейскага дэспотызму на абшары аднае шостае часткі сьвету.

Кастрычнік. Заліта краіна народам. Народ сьмяецца перамогай. Разам, як і на заводзе, чыгунцы, так і тут у калёнах, у шэрагах замасьляных курткаў, з худымі тварамі поўнымі сьмеху вачыма, разам з рускім, мангольцам, палякам, латышом, украінцам, сартам, башкірам, чувашом, — заўсёды думны, узросшы на песьнях пакуты, сёньня бадзёра ішоў беларус з стрэльбаю, бомбаю і кулямётам, каб радасьць і гнеў узмацаваць нязломнаю сілай.

Проціў нямецкага акупанта на родных абшарах, проціў гэнэралаў у Сіваша (Крым), пад Петраградам, Уфою, Омскам і ў далёкай Ахоцкай экспэдыцыі, потам, кроўю і жыцьцём баранілі ад пакуты сваю радасьць, сваю здабычу. Змагаліся за вызваленьне. У гэтай барацьбе ружаю расьцьвітала літэрарутна-мастацкая творчасьць беларускага працоўнага народу, яна вызвалялася ад нацыянальнага чаду, набірала інтэрнацыянальнага характэру, барацьбянага зьместу, захоўваючы сваю нацыянальную форму.

Ад 1917 году і аж да 1924 г. прыяжджалі тыя, каго звалі „бежанцамі“. Прыяжджалі людзі з усходу, да разбураных, полымем зьнішчаных хат, да заросшых чаротам і крапівою сядзібаў, прыяжджалі ў рукі нэндзы, голаду, у рукі ўмоў мінулага, згубіўшы бадзёрае сучаснае.

Дзясяткі, сотні тысяч ехала іх і ступіўшы нагою на родны абшар — зразумелі: на крапіву прыехалі, лебядою долю будаваць. Ня плакалі і стогн пакуты далёка адыйшоў. Яму паддаваліся адзінкі, барацьбяная-ж маса мела поўныя грудзі надзеі, што цяжкасьці перамагаюцца не сьлязьмі і ныцьцём, а ўпартаю працаю.

Вось гэтым гістарычным умовам былі падпарадкаваны: песьня, верш, апавяданьне і казкі мільлённага народу, які быў і ёсьць амаль пазбаўлены друкаванага слова.

Паэт, пісьменьнік, мастак і гумарыст, той, каго нарадзіў працоўны люд Зах. Беларусі, хто прайшоў разам з гэтым народам добры кавалак шляху ў змаганьні за вызваленьне, — той не адрываўся ў сваіх літэратурна-мастацкіх творах ад жыцьця, ад барацьбы, ад надзей яго на будчае. Творчасьць нашых працоўных пісьменьнікаў гучыць бадзёрасьцю, запальвае, кліча наперад, на барацьбу за лепшую долю. Таму яна хоць і пазбаўленая друку, сама-

стойна ідзе па вёсках, вандруе ў рукапісах ад хаты да хаты, робіць сваю вялікую справу.

Гісторыя літэратурна - творчага руху на Заходняй Беларусі зьяўляецца гісторыяй соцыяльнае і нацыянальна - вызваленчае барацьбы пакрыўджанага народу.

Зрываючы маску з нашых ворагаў, мы заяўляем працоўнаму народу, што літэратурна - мастацкая творчасьць ніколі ня была і сёньня ня ёсьць адарваная ад агульнага жыцьця. Што гэтая творчасьць ідзе крок у крок з барацьбою масаў, а не над гэтаю барацьбою, як сіляцца намаляваць літэратурныя сілы нацыянальных дэмакратаў і санацыі (Ільшэвічы, Казлоўшчыкі і Вількоўскія) і іх ідэёвыя правадыры Луцкевічы, кс. Станкевічы і іншыя.

Бурны бег мінулага, падчас расьцьвету „Грамады“, паказаў больш чым калі разьмяжаваньне беларускага грамадзянства на два лягэры, паказаў, што з аднаго боку стаіць беларускі буржуа з сваёю ідэолёгіяй, з сваімі мэтамі, які мая сваіх ідэолёгаў, сваіх песьняроў у асобах Бартуляў, Арсенявых, Ільляшэвічаў, Казлоўшчыкаў і Вількоўскіх. З другога боку барацьбяная ў сьвітку апранутая вёска, яе правадыр горад з сваімі камінамі, работніцкімі карпусамі, у вугаль, у мазь запэцканымі курткамі, з мазольнымі, як сталь моцнымі, рукамі, на якіх шкура сталася рамянём — з другога боку тыя, хто поўны грудзі мае сілы бароцца за сваю лепшую будучыню, хто ў штодзённай барцьбе здабывае гарт, мае іскрыстасьць воч і злосьць, соцыяльную злосьць да здрады.

Тым адчынены гімназіі, унівэрсытэты, нічым не абмежаваны друк, дапамога з тайных крыніц. Ня гледзячы на ўсё гэта бяз поступу топчуцца на мейсцы, васьпеваюць красу неба, клічуць на дапамогу вышэйшую сілу, жывуць надзеяй адурманіць нясьведамых і іх рукамі заграбці жар.

Другія пазбаўлевыя гімназыяў, унівэрсытэтаў (дзякуючы сваёй галіце), бяз уласнага друкаванага слова, за плугам на панскім полі і вузкай сваёй паласе, у варштатах пад гутарку сталі і нэндзы сучаснага дня — куюць свае бадзёрыя поўныя жыцьця, мастацкія творы, якія гуртам, пры сьвятле смаляка, чытаюць у сялянскай хаце, у падвале горада.

З гэтымі другімі ідзём мы, група пісьменьнікаў — змагароў, ідзём, каб разам з імі, цэлым працоўным народам, служачы яму, крочыць на сустрэч адбываючыхся падзей.

Кідаючы гэты аткрыты вызыў барацьбы на літэратурна - мастацкім фронце ў нацыянальна - вызваленчым руху, мы кідаем заклік да ўсяго, што ёсьць разумнага, сьведамага, да працоўнага ў нашай краіне, да пісьменьнікаў, выйшаўшых з асяродзьзя сярмяж-

нага люду, да пісьменьнікаў ад варштата і плуга — зразумець адказнасьць сучаснага стану. Клічам Вас да гуртаваньня навакол часопісі „Літэратурная Старонка“. Клічам на творчую працу для народа і разам з ім.

Мы разумеем умовы, разумеем, што перад намі цяжкасьці і перашкоды, але тым з большым запалам бяромся за працу, за ажыцяўленьне даўно насьпелай думкі аб утварэньні каля часопісі свае ўласнае сялянска - работніцкай пісьменьніцкай кагорты — арганізацыі.

Узрост сацыяльнай і нацыянальнай сьвядомасьці нашага народу прад'яўляе нам рахунак на задаваленьне культурна - асьветных патрэб новым вершам, песьняю, сцэнічным творам, жыцьцёвым апавяданьнем; патрабуюць, каб мы паказалі запраўднасьць сёньняшняга дня і гэтым самым выхоўвалі масы, улівалі ў іх новыя сілы для барацьбы за лепшае заўтра.

Тысячы кавалкаў працы не распачата. Мы падымаемся для штурму іх. Клічам усіх, хто добрасумленна хоча сілы і здольнасьці свае аддаць на карысьць працоўнага народу.

Мы клічам тых, хто набіў руку ў пісаньні, клічам пачынаючых пісьменьнікаў - самародкаў, шчыльней станавіцца ў нашы шэрагі і чоткім словам, не адрываючы яго ад чыну, гартавацца і гартаваць другіх для вялікіх спраў нашага народа. У гэтых шэрагах, разам з намі, пойдзем наперад, кладучы цэглы ў вялікую будыніну літэратурна - мастацкае творчасьці працоўнага народу, творчасьці, якая дасягнула цудоўнага расьцьвету ў нашых усходніх братоў.

Мы клічам Вас і маем нязломную надзею ў тым, што заклік наш у нашай дэкларацыі Вамі будзе прыняты актыўнымі чынамі, гарачым удзелам у нашым часопісе „Літэратурная Старонка“, у яе ўзбагачэньні ўсебаковаю творчасьцю і матэр'яльным падтрыманьнем.

Маем надзею! Крочым наперад пэўны ў сваёй перамозе.

**Янка Чабор.**
**Міхась Васілёк.**
**А. Рэдзька.**
**Пятрусь Граніт.**
**Зьвястун.**
**Анатоль Івэрс.**

**ЯНКА ЧАБОР.**

# ЗАКЛІК.

Сябры!
Мы бяромся за работу
Не нажарты.
Час даўным, даўно было ўзяцца,
Бо адсталі
Далёка ўзаду ад другіх.
Я іду — клічу ўсіх
Шагаць горда ў вядомыя далі!
Гэй, вышэй галаву!
Вышэй сьцяг барацьбы
За справу сялян і рабочых!
Мы авангард!
Дык-жа гарт
Наш пазнаюць хай ворагі нашы!
Горт здабыць — гэта нашы заданьні,
У барацьбе, а не ў нараканьні.
Мы вучыцца павінны,
Вучыць людзей
З сырых падвалаў
І шэрых хат —
(Наш то брат!),—
Як трэ' скінуць няволю багацтва
Што душыць іх.
Але сухіх
Слоў тут мала!
Тут трэба сілы,
Каб супроць ставіцца цемры, вызыску
Мы чынам, работай сваёю
Здабудзем правы на жыцьцё.
Змагацца із сілай ліхою
Мы зможам.
Дык далей
І глыбей
Ўлязай ў гушчу людзей

Прасьмердлых ад дыму,
Замучаных працай.
З нізоў, а ня з зьверху, —
Як з другога паверху, —
Памагаць
Будаваць
Новы дом,
Дом братэрства усіх людзей працы.

15.XII — 1933.

## ЯНКА ЧАБОР.

* * *

Гэй, арліна мая сіла,
Ты ўзьнімі мяне увысь.
Над маёй старонкай мілай
Ты крыльлямі размахніся!

Засьпяваю песьню люду,
Каб пакінуў ён цярпець.
Заклікаці моцна буду,
Што даволі ўжо галець.

Буду клікаць люд рабочы
З хатаў, вёсак, гарадоў,
Каб скідалі цемру ночы,
Што лягла ў цягу гадоў.

Каб жыцьцё тварылі самы,
Каб зьбіраліся ў паход.
— Гэй, я знаю, лопнуць тамы,
Зварухнецца наш народ!

Пойдзе рэчышчам ён новым
Да дабра усіх людзей,
Створыць розумам здаровым
Дабро людзкасьці усей!

# Пачын падтрымайце чынам.

Чатыры гады таму назад паўстала ў нас думка выдаваць літэратурную часопісь. Чатыры гады мы мучыліся з гэтай думкаю, але яе зрэалізаваць нам не давялося — на перашкодзе стаялі матэр'яльныя труднасьці.

Пасьля зьяўленьня на сьвет „Беларускай Газэты“ мы кінуліся з просьбай да яе, каб яна нам памагла. Але, на наш вялікі жаль, і „Беларуская Газэта“ знайходзілася ў надта цяжкіх матэр'яльных варунках. Аднак-жа, ідучы насустрач нашым маладым жаданьням, памагла нам выпусьціць два разы, два лісточкі „Літэратурнай Старонкі“, як дадатак да свае газэты.

Гэты крок, як і трэба было спадзявацца, выклікаў вялікае зварушаньне ў пачынаючых паэтаў і пісьменьнікаў, загудзеў магутным рэхам па ўсіх кутках Зах. Беларусі. І нас літэральна завалілі сваімі працамі паэты і пісьменьнікі - саматужнікі, пераважна моладзь, доказам чаго хай паслужаць звыш двох дзясяткаў рэдакцыйных адказаў у другім номеры „Літстаронкі“.

Гэтая масавасьць, гэтая стыхійная цяга да літэратурна-творчай працы змусіла нас панатужыцца і з шырэйшым размахам выйсьці ў сьвет.

Не магло быць і рэчы аб тым, каб „Беларуская Газэта“, зрабіўшы слаўны пачын, справілася з цэлаю навальніцаю матэр'ялу, справілася з задачамі ня толькі друкаваньня, але яшчэ важнейшымі — гэта выхаваньня, штодзеннай вучобы маладых пісьменьнікаў, дапамога ім, кансультацыя праз лісты і тысячы дробных, не прадугледжаных спраў,

Выходзячы з гэтага група пісьменьнікаў узяла на сябе абавязак выдаваньня часопісі. Матэр'яльныя труднасьці на першы номер перамог наш рэдактар самаахвярнай працай.

Але вядомая рэч, што тры, а нават і пяць чалавек, якбы яны самаахвярна не працавалі, многа зрабіць ня змогуць. Тут патрэбуецца гарачы і актыўны ўдзел пісьменьніцкіх мас ня толькі ў тым што прыслаць свае творы і прасіць, каб іх друкавалі, — гэта вельмі добра, — але-ж удзел павінен выразіцца і ў тым, каб кожны лічыў сваім абавязкам свой ворган падтрымаць матэр'яльна, арганізуюзы на гэтую справу моладзь і старэйшых памятаючы адно, што „п а д  л я ж а ч ы  к а м е н ь  в а д а  н е  п а ц я ч э“. Трэба зрабіць, калі мы са

праўды хочам мець свой ворган, каб ні адзін экзэмпляр часопісу не пайшоў дарма. Адміністрацыя гэтага будзе трымацца моцна. Яна спыніць высылку другога номера ўсім тым, хто не патурбуецца выслаць сваячасова падпісную плату. І гэта кажам зусім цьвёрда.

Каля часопісі трэ' будзе ўтварыць пісьменьніцкія групы. Гэта нам дапаможа пры супольным чытаньні матэр'ялаў, лепш у іх разабрацца, супольная чытка дапаможа ў высьвятленьні недахопаў у кожнага з прысутных, прыроўніваючы твор зьмешчаны ў часопісі да таго, які захованы ў чарнавіку.

Рэдакцыі будзе значна лягчэй трымаць сувязь з групаю 3 — 5 чалавек, чым з кожным паасобку, ды і карысьней чытаць ліст па ацэнцы вершаў, апавяданьняў некалькім асобам, бо гэта дае магчымасьць абгаварыць яго і нават напісаць па ім сваю групавую думку. Такі спосаб працы давайце возьмем з першых номераў „Літстаронкі".

Мы моцна верым у тое, што часопісь стане дапаможнаю кніжкаю для кожнага маладога пісьменьніка, духоваю страваю для грамадзянства. Верым, што наш пачын падтрымаеце чынам.

**Рэдакцыя.**

---

**М. ВАСІЛЁК.**

* * *

Я пішу як магу, голас сэрца майго
Выліваецца тут на паперы.
Разуменьню братоў проста кованых слоў
Знаю я — не зачынены дзьверы!
Пасьля працы цяжкой братка сядзем з табой
Пагуторым праз лісьцік хоць гэты
Як змагацца з жыцьцём... Сорам плакаць дзіцём,
Калі ў сэрцы гараць агняцьветы!
Праўда, гняце цяжар, пад нагамі смяцьцё
Ладзіць брудная рукой барыкады. —
Можа быць і гарэй... але ведай — згарыць
Ў тым агне боль, подваліна здрады!

Мы сыны галіты, гарт жыцьця наш сьвяты,
Гэта праца — крывавая праца!
Кожды міг, кожды час, кліча голасна нас
Рваць няволі ланцуг, жыць — змагацца!
Запытаеш мо' брат: „Эх, я сам быў-бы рад,
Але як, калі скованы рукі?“
Выхад ёсьць, й не адзін. Рабачай, селянін —
Перш ўзмацніць гарт працоўнай навукі!
Так братко дарагі, каб парваць ланцугі
Трэба стаць нам гранітнай сьцяною!
Чакаць грому з небёс? Не, нам высказаў лёс
Браць жыцьцё ды рашуча і з боям!
Больш бадзёрнасьці мець, агнём веры гарэць —
Тут бязьдзейнасьці грунт не падацца,
Знішчым гора ушчэнт — перамогі мамэнт —
Засвяткуя магутная праца!

* * *

Зьмяя, катору ўзгадавала
Народу сэрца, гэта той —
Хто здрадзіў працы ідэалам,
Паганьбіў лучнасьць з галітой.
Прадажа чэсьці і сумленьня,
Пад гідкі шмэр гандлярскіх слоў...
О, здрайцы, юды, час ваш сяньня
Смактаці з жылаў братніх кроў.
Прыдзе мамэнт жаданай волі,
Працоўны молат загрыміць; —
Ў награду выкуе мэдалі..
Ваўкоў па воўчы змусіць выць!

* * *

Пад гукі струн маёвых, кволых
Я бачыў сонца танцавала,
Ды так задорыста, прыўдала —
Пад гукі струн маёвых кволых.
Землю галубіла, ласкала...
Размашыстым агністым колам,
Пад гукі струн маёвых кволых
Я бачыў сонца танцавала.

**М. РУНІЧ.**

# На новым этапе.

Грамадзкае жыцьцё ў Зах. Беларусі, як і на ўсім сьвеце, за апошні час узбагацілася шматлікімі новымі фактамі. Факты гэтыя, як кожны можа заўважыць, моцна выдзяляюцца з штодзеннай будзёншчыны і сьведчаць аб тым, што мы ў сучасны мамэнт перажываем сапраўды нешта новае, калі кожны наш крок накладае на нас не штодзенную адказнасьць, калі найменшае незразуменьне сытуацыі можа прывесьці да ракавых памылак.

Кожны, хто маламальскі праявляе ахвоту пазнаць існуючы стан беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, хто мае для гэтага хоць найменшыя магчымасьці, хто сам бярэ удзел у вялікім змаганьні — кожны ня зможа запярэчыць таму, што грамадзкае жыцьцё у Зах. Беларусі набрала надзвычайнай актыўнасьці і сілы. Досыць толькі падсумаваць такія факты, як нястрыманае імкненьне шырокіх мас праз сваю прэсу пазнаць тое, што дзеецца на сьвеце, як актывізацыя іх у змаганьні за свае культурна-асьветныя патрэбы, за ўзмацненьне сваіх культурна-асьветных арганізацый. Досыць успомніць, як бароняцца масы, а перадусім бяднейшае сялянства ад непамерных матэр'яльных цяжараў, як змагаюцца рабочыя проці мала дзе ў іншых старонках параўнальнага эканамічнага вызыску, за людзкія ўмовы працы, досыць нават гэтых агульных сьцьверджаньняў, каб перакапацца, што час робіць сваё, не азіраючыся на тое, ці то каму падабаецца ці не, ці хто бачыць гэта ці ня хоча бачыць, ці кажа аб гэтым адкрыта ці прымушаны маўчаць. Народныя масы ў той ці іншы спосаб, залежна ад існуючых умоваў, даюць аб сабе знаць, напамінаюць urbi et orbi аб сваіх жаданьнях і імкненьнях.

Вышэйсказанае аднак — яшчэ палавіна, адзін бок мэдалю сучаснае сытуацыі ў беларускім грамадзкім жыцьці.

Наступленьне адных, выклікае неадзоўную рэакцыю другіх. Ня будзем тут гаварыць аб „вышэйшай сіле“. Скажам толькі аб тым, што ня кожны можа бачыць, што не адчуваецца яшчэ на кожным кроку.

Падняўшаяся на вышэйшую ступень актыўнасьць, імкненьне шырокіх народных мас да вольнага жыцьця, да ўзяцьця сваіх спраў у свае рукі — зганяе сон з вачэй звыш пастаўленых вольнанаёмных апякуноў. Ворагі беларускага народу адзін за другім праціраюць вочы. Яны ня пытаюцца: што сталася?! Яны проста хапаюць за папяровае аружжа і глядзіш устанаўляюцца ў баявым шыку. Паўстае нацыянал-сацыялістычны „Новы Шлях“, выходзіць, пасьля амаль гадавой сьпячкі фашыстоўскі “Золак“, пабольшвае фармат „Беларуская Крыніца“, ТБА і „Родны край“ праводзяць чыстку свайго апарату, эксмісуюць Крука і вядуць узможаную акцыю па закла-

даньні сваіх бібліатэк, хадэцкі Інстытут Гаспадаркі і Культуры выдае інстркцыю для ажыўленьня працы сваіх гурткоў, п. Альбін Стэповіч, дабравольна ўзяўшы на сябе ролю пасланца, прыносіць у рэдакцыю „Беларускай Газэты" адозву дагэтуль маўчаўшага санацыйнага Праф. Саюзу бел. вучыцялёў, беларускі Адольф Клімовіч ратуе сытуацыю ладжаньнем карэспандэнцыйных курсаў. Гэты не выпадковы букецік трэба допоўніць яшчэ здрадніцкімі і шкоднымі ўчынкамі Марцінчыка, Шырмы і Лукашыка. Нічым іншым, як гэтай-жа агульнай актыўнасьцю можна вытлумачыць і захаваньне гр. Стэцкевіча ў адношаньні да жыцьцёвых спраў Т-ва Бел. Школы. Захаваньне гэтае, далікатна кажучы, ня можна іначай назваць, як адной з форм гарачкавай актыўнасьці бел. хадэцыі і яе табару.

Так прадстаўляецца другі бок сучаснай запраўднасьці. Мімо сваёй стракатасьці і павярхоўнай многалюднасьці і нібы страшнага рэву газэтных новатвораў — запраўднасьць гэтая не страшная. Яна ня толькі не анясьмельвае, але наадварот пераконвае нас, што мы маем сілу і вялікія магчымасьці.

Нас цікавяць яшчэ іншыя вывады. Усе вышэйпрыведзеныя факты, як ня трэба выразьней сьведчаць аб тым, што грамадзкае жыцьцё у Зах. Беларусі ўступае ў новы этап у сваім разьвіцьці. Гэты новы этап багаты фактамі, якія не знайходзяць сабе падобных у прошлым, як сваёй формай так і зьместам. А таму пэражываемы этап ёсьць крокам наперад, ёсьць вышэйшым этапам грамадзкага разьвіцьця ў Зах. Беларусі. Яго можна ахарактэрызаваць далейшым завастрэньнем і пашырэньнем клясавых супярэчнасьцяў існуючых у сучасным грамадзтве, завастрэньнем, якое рана ці позна давядзе да поўнай акрэсьленай разьвязкі. Хто змагаецца, можа спакойна глядзець у будучыню.

У такіх **новых** умовах тое ці іншае хістаньне, няяснае становішча, ухіляньне ад яснага выказаньня сваёй думкі набірае зусім іншага выразу. Калі ўсё гэта было выбачальным да пэўнай меры ў іншым часе, калі аб гэтым можна і трэба было гаварыць між сабою, то яно ня можа быць— без непаправімай шкоды — выбачальным цяпер, аб ім трэба гаварыць публічна, заклікаць найшырэйшыя колы ўзяць слова па гэтым пытаньні. І калі раней хістаньне паміж небам і зямлёю можна было тлумачыць слабасьцю, нясьведамасьцю, ідэолёгічнымі недахопамі, то цяпер трэба тлумачыць яўным адыходам, яўным адказам ад таго, да чаго раней заклікалася, што хацелася сабой рэпрэзэнтаваць. І калі раней можна і трэба было пераконваць і вучыць, то цяпер трэба сказаць, што дарога вольная, ідзеце туды дзе вас ужо абыймаюць, дзе хваляць ваш гэраізм, вашы заслугі, дзе ўжо падгатаваны гарачы прыём. Ідзеце і чым хутчэй, чым хутчэй, бо толькі так зможаце ясна і нядвузначна паказаць каму трэба хто вы, толькі так будуць разьбіты тыя ілюзіі, якія да вас могуць мець некаторыя, хто вам верыў раней.

Гісторыя людзтва ня ведае просталінейнага шляху, яна поўная загібаў і шпаркіх пераходаў ад аднаго да другога стану. Пераходы гэтыя выяўляючыя сталы поступ, падгатаўляюцца даўжэйшы час носьбітамі будучыні і магчымыя дзякуючы супярэчлівай сутнасьці дагэтуляшнага грамадзтва. Чым большыя гэтыя супярэчнасьці, чым лепш аб гэтым ведаюць будаўнікі новага — тым хутчэй разьвязка. Таму кожны чалавек, які ідзе па лініі людзкога разьвіцьця, які разумее ход грамадзкіх падзей, які хоча поступу — не баіцца таго што асноўныя супярэчнасьці растуць і разьвіваюцца. Ён ведае, што новы, вышэйшы этап у грамадзім разьвіцьці Зах. Беларусі зьбліжае нас да таго, аб чым мы „сьнім", да падзей гістарычнай важнасьці. Задача палягае ў тым, каб зразумець усё гэта, каб ня сунуць палак у сьпіцы калёсаў гісторыі, але расчышчаць шлях да яе перамогі.

**ЗЬВЯСТУН.**

# МОЛАДЗІ.

Мы — зары паланеючай раць,
Мы — агонь непамернага бунту, —
Мы ідзём разьбіваць і зіяць,
Руйнаваць стары сьвет аж да грунту.

Гімны ў сэрцах нясем і хвалюем
Мора крыўды з падвалаў і хат.
А ў грудзёх нашых мора бушуе:
Помста — ненавісьць — родны наш брат.

Мы прысуд пішам цьвёрдай рукою
Дармаедам і поту й крыві,
Паланеючы новай зарою,
З цемры стогнаў мы плавім агні.

Стой, працоўна - гартоўная моладзь,
Стой на варце вялікіх ідэй —
Нас ніякія буры ня зломяць,
Не застрашаць юнацкіх вачэй!

Бо мы — моладасьць, сіла, агонь.
Бо мы — гарт чорнай нэдзы — няволі,
Мы — залог сьветла-будучых дзён,
Кавалі тэй жаданае долі!

**ФР. ГРЫШКЕВІЧ**

# КАЛІ Я РАЗ...

Калі я раз на чорных кніжных крыльлях
Ляцеў у глуш мінуўшых цёмных лет;
На пралетарскіх гордых Тэрмопілях
Мяне стрымаў адзін крывавы сьлед:
Адцятых пара рук — паложаны як струны,
Пад імі ўбіты год Парыжскае Комуны.

Адна рука была рукой батрачай,
Шырока груба, як валынскі сноп;
І мазалі, як галавы дзіцячы
Расьлі на ёй ад панскіх польных коп,
Плугоў і дзірваноў, цапоў і калаўротаў,
Калі па ёй цякла кроў з ранаў і кроў з потам.

Другой рукой была рука рабоча,
Сталёва косьць, а скура як рамень;
І мазалі на ёй, як камні ў ночы
Чарнелі рубам, як зламана цень:
Была яна як лом, як рукі вуглякопаў,
Калі па ёй цякла кроў з ранаў і кроў з потам.

Калі я раз на чорных кніжных крыльлях
Ляцеў у глуш мінуўшых цёмных лет;
На пралетарскіх гордых Тэрмопілях
Мяне стрымаў адзін крывавы сьлед:
Адцятых пара рук — паложана як струны,
Пад імі ўбіты год Парыжскае Комуны.

Прага, 16-IV 1932.

**АНАТОЛЬ ІВЭРС.**

# Вёска.

Разьляглася вёска
Хатамі у рад.
Дзе-ні-дзе бярозка
Блісьне паміж хат.

І вярба часамі
Плача над страхой.
Помсты галасамі
Як гудзе віхор.

Пад саломай хаты,
На саломе мох. —
Тут жыве араты
З думкай перамог.

За хатамі поле:
Жыта і авёс,
Сенажаць - раздольле:
Чарот, вербалоз.

У хатах парожна:
Хлеб тут рэдкі госьць.
А ў далі трывожна
Лес шуміць чагось.

Сонца льле бяз ласкі
Вогненую плынь.
І чароўну казку
Шапаціць палын.

---

**НАСТА**

# Пад белымі крыжамі.

Шлі яны шырокім шляхам. Па бакох расьціlaліся шырокія палі. Уздоўж поля, па пожні, густымі радамі выстраіліся жытнія панскія дзясяткі. Сонца ўжо сядала. Чырвоным зарэвам гарэў захад. На ўсход грамадою таўпіліся чорныя хмары. Час ад часу недзе далёка гудзелі апошнія раскаты грома і паблысківала маланкай.

Босыя ногі іх то коўзаліся, то вязьлі ў гразі. На худых, маленькіх, згорбленых плечыках нясьлі яны торбы, напханыя жытнімі каласамі і асушкамі чорнага хлеба. Праходзілі яны міма шэрых сялянскіх хат, каля панскіх палацаў, і ніхто ў іх не запытаўся, чаму ходзяць яны, і ніхто не пашкадаваў іх, бо нікога ня было ў іх блізкага. Адзін толькі цёмны куточак у падвалі старога дому на акраіне вялікага гораду прытуляў іх. Каб з голаду не памерці, узьдзеўшы торбы на плечы, цягнуліся яны ў поле. З рана да познага вечара пад няміласэрна пякучым сонцам, галодныя, аборваныя, зьбіралі яны па каласочку, або зварачвалі ў вёскі, у панскія двары і там пад вокнамі працягвалі худыя ручкі, просячы кавалак хлеба.

З-за прыгорка паказаліся могілкі. Горад яшчэ далёка. Скінула старэйшая торбу з плеч і апусьцілася разам з ёю на зямлю Буйныя сьлёзы чыстыя як крыштал, пакаціліся на брудную зямлю.

— „Галенка! Мо' зойдзем да таткі ў гасьціну? — адазвалася да малодшай. А тая стаяла над ёю і шырока ад рытымі, сумнымі вочкамі глядзела на сястру. Ёй было нейк дзіўна, чаго тая раптам заплакала. Яна ведала толькі, што яшчэ так нядаўна жыў іх татка, які надта любіў іх, вішанькай сьпелай, яблычкам ружовенькім называў яе, а цяпер вось тут на могілках гэтых ляжыць. Аб мамцы яна нічога ня ведала. Ведала яшчэ, што надта цяжка насіць торбу па гэтых вялікіх палёх. Ногі баляць, рукі і ўсё, усё, і есьці заўсёды надта хочацца. Ведала яшчэ, што брыдка лаюцца на іх, а на панскіх дварах дык нават і б'юць, калі не ўцячэш. А яшчэ добра ведала, што ў такія страшныя хвіліны трэба шукаць абароны ў старэйшай сястры.

Старэйшая, убачыўшы магілкі, не магла йсьці далей. Раптам успомнілася ёй усё яе дзяцінае жыцьцё. Хата, бацька, мама. Дзе гэта ўсё? Не заглох яшчэ ў вушох зьвяк кандалоў, якімі злыя людзі сьціскалі шырокія мазалямі пакрытыя, бацькавы рукі. Матчыны сьлёзы, яе апавяданьні пра нейкія кнігі, як праз сон помніліся ёй. Нядоўга бацька пажыў разам вярнуўшыся да хаты. Худы, белы, як цень хадзіў па пакоі, толькі вочы гарэлі нейк дзіўна, дзіўна, як гладзіў курчавыя белыя галоўкі сваіх дзяцей У адну прыгожую веснавую раніцу нясьлі яго ўжо за горад на могілкі. — „Няхай лёгкай будзе табе зямелька гэта“ — закончыў сваю разьвітальную мову адзін з тых што нёс труну. Па пару днях яны маленькія ўглядаліся, як магільшчык устаўляў у канец магілы высокі дубовы крыж, пад каторым быў пахованы іх добры бедны татка.

Далей голад, холад, смерць маткі, цёмны падвал і адзіноцтва. Так мала давялося ім бачыць і чуць пяшчот бацькоў. Мала дзіцячага было ў гэтых дзіцях, у гэтых вырадкаў цяжкай людзкой нядолі.

Устала старэйшая. Нічога не гаворачы ўздыхнула цяжка, закінула торбу на плечы, другою ручкаю ўзяла за руку малодшай і пацягнуліся на могілкі.

Мокрыя спаднічкі прыліпалі да ног,ісьці было яшчэ цяжэй.

Вось і капец. Тут глыбока ў зямлі закопаны іх татка. Пара маладых бярозак схілілася над ім. Скінуўшы з плеч торбы яны селі на могілку і з іх сініх вочак паліліся, як град, сьлёзы. І капалі сірочыя сьлязіны на капец, зямля каторага ўцягвала іх у сябе.

Бацька ўстань! Глянь на дзетак сваіх, прытулі, моцна абнімі іх, памажы ім жыць, дай прыпынак, хлеба кавалак, яны-ж малыя яшчэ.

Маўчаў бацька; мёртвая ціша панавала на могілках. Ні адкуль ня было слоўца пацехі для дзетак Ніхто ня зжаліўся над іх лёсам. І толькі

дзіўную нейкую песьню засьпявала ў кустох птушка. Звукі той песьні былі нібы адказам для бедных сіротак, і нібы матчынай рукой гладзілі галоўкі дзетак, цалавалі іх сіненькія, заплаканыя вочкі. Заслухаўшыся ў песьню той птушкі, перасталі дзяўчатка плакаць. А бярозавыя лісточкі нешта ціха на сірочыя вушкі шапталі. Казалі мусіць ім аб несправядлівасьці, пануючай на сьвеце, аб тым, што многа, многа ёсьць такіх як яны.

А захад загараўся чырвоным заравам, — на ўсход-жа таўпіліся чорныя хмары.

## Там дзе шуміць каласістае гора.

Маўчыць васільковая ніва,
маўчыць каласістае гора;
адзін толькі вецер кудлаты,
кульгаючы шэпча, гавора.

Гавора ён мне нябыліцы:
аб шчасьці вузкой паласы
аб долі крывавай мазольнай,
аб песьнях сярпа і касы.
Лятуць сінядымныя думкі
із ветрам кульгавым, кудлатым,
ад вуліц к гарбатым палоскам,
ад фабрык к скрывіўшымся хатам.
Льлецца вобраз за вобразом хвалямі
часам чорнымі з вугля,
ці чырвонымі, гарачымі,
быццам з лявы, ці з агня.

Вецер улёгся. Скрось па межах
вецер спіць і не гавора
толькі шэпча сьпелая ніва,
шэпча штосьць калсістае гора.

1933 г. Максім Танк

**МІХТАР.**



Прыгожы беларускі краявід. На першым пляне іржышча і раскіданыя на ім дзясяткі. Каля нязжатага яшчэ збожа снуюць людзі. Жнуць і вяжуць, за імі будынкі, схаваны ў зелені. Далей поле і на гарызонце лес. Над усім гэтым неба з курчавымі хмаркамі. Усё ў гарачым купаньні жніўнівага сонца. Такую харошую мяйсцовасьць заняў панскі двор П. у Слонімскім пав.

Нядобра ідзе там справа. Малады панок п'е: шклянкамі і проста з бутэлькі. Гаспадарка запускаецца. Зямля і лес распродваецца. Будынкі разваліваюцца. Коні худыя. Каровы таксама. Вялікі сад навакол палацу выглядае сіратою. А ў палацы, кажуць духі нейкія цішу нарушаюць. І як-бы з сораму схаваўся панскі палац у зялёнае мора дрэў. Толькі страха відна здалёк.

* * *

Паўдзень.

Палова другой. І вось: бах, бах, бах, бах! малатком у стары лямец! Клічуць на работу. На жніва. У гарачую духату паветра. Ох, як ня хочацца! Як цяжка падымаюцца дзеўкі і бабы. А йсьці трэба.

— Гэй, варушыся там, варушысь! — чуцён задорны голас дазорцы.

Ідуць паволі. Як-бы на кару. На полі снуюць, як сонныя мухі. Жніваркі яшчэ няма. Адныя прылягаюць на іржышчы, хочуць супачыць. Другія жнуць жыта на перавясла. Рэшта тупа — павольным крокам зносяць снапы ў дзесяткі.

Здалёк ня йдзе, а бяжыць надзорца. Натыкаецца перш на ляжачых.

— Што? Лажыць я вас маю пакуль прыйдуць жніваркі? Марш на работу!

— А што-ж рабіць будзем, калі жніваркі няма? — Чуцён голас.

— Жаць, жаць марш! Такую вашую маць!

Бяжыць далей.

— А вы як жняцё? Ня можаце хутчэй сваім задам варочаць?!

І не аглядаючыся далей.

— Быдла вы! Як вы спапы стаўляеце? ...вашую маць! Ці-ж вам вочы павылазілі? Адна дзясятка тут, другая там. Па людзку рабіце, быдла акаянае! Ты дзе там дзязятку ставіш? Лянуешся сноп паднясьці?

— Нешта ты рана гукаць пачаў — адазвалася старэйшая кабеціна. — Мусіць ракам устаў сёньня?

— Вот я табе як дам, то ты й зусім ня ўстанеш, п... ты дурная!

Нейкі час стаіць спакойна. Яго нецярплівіць, што не падводзяць доўга коні.

— Коні давай! Коні! — гукае громка. Але іх не даюць. Гукае яшчэ і яшчэ. Потым бяжыць сам.

Жанкі канчаюць насіць снапы. Жнеі кідаюць сярпы. Лажацца на іржышча. Яно ня колецца. Наадварот, яно мягчэй мо', як пану пярына.

Здалёк залязгала. Едзе жнівярка. Худыя коні выпінаюцца нядружна! Заляскала зубамі, крыльлі адрывіста замахалі, спыхаючы на землю зрэзаныя сьцяблінны жыта.

Падняліся бабы з іржышча-пярыны. Нагінаюцца над кучкамі зжатага жыта. Надзорца стаіць Нічутно песні з перасохшых вуснаў. Толькі лязгат жнівяркі нарушае гарачую цішыню.

І так да вечара. І так заўтра і пасьлязаўтра. Целы месяц і год. Усё жыцьцё чалавека працы. Батрака.

**У. Т.**

# НАПЕРАД!

Хай ўсё затрасецца ад бур грамавых,
Ад грому маланкаў, ад ветраў ліхіх —
Ты сьмела, бяз страху, наперад ідзі,
Да сонца і зораў нясьмелых вядзі.
І гром, і маланкі, і вецер ліхі,
І падаюць скалаў абломкі, —
Ты сьмела ідзі супроць гэтых стіхій,
Хоць шлях крамяністы і стромкі.
Да сонца з цямноты лагчынаў!
Парві, захапі за сабою усіх,
Агнём і ўздымам імкненьняў сваіх
Будзь прыкладам ты у славах і ў чынах.

15-X 1933 г.

**АЛЕСЬ САЛАГУБ**

# А ХТО Ў ПОЛІ?...

А хто ў полі рана пагукае,
А хто полі рана абуджае?
Во ці лебядзі, во ці сокалы
Абудзілі прастор, даль шырокую?
Ці аўсы, жыты сьпелым коласам
Так гудуць — шумяць людзкім голасам?
Ці бароў густых задумённый шум
На палі—лугі ды навеяў сум?

Ой, ня лебядзі, ой ня сокалы,
Ні бароў густых задумённый шум —
Абудзілі прастор, даль глыбокую
І навеялі на краіну сум.
За высокі мур з цэглы складзены,
За жалезныя перакладзіны —
Павялі сыноў — льлецца ціхі стогн —
Мчецца ціхі стогн з па-за крат вакон.

Ня шуміць там бор, не зашастае,
Ня відаць з вакна сонца яснага,
Ня шуміць жытцо сьпелым коласам,
Не пяе жняя поўным голасам.
Не бадыль сухі да долу хіліцца
Аб асфальт-сьцяну б'е патыліцай.
Бы падрэзаны ды касой чарот
Сьмягне там ратай малады з сухот...

Ой, ня чуть яму слоу пяшчотлівых
Ой, ня сьніці сноў безклапотлівых.
Дзе глядзяць цяпер вочы ясныя?
Дзе падзелася доля шчасная?
Дзе зьвініць каса, каса звонкая,
Дзе гамоніць ноч ды з сасонкамі,
Дзе бурляць, ня спяць хвалі Нёмана
У ночы летнія, ночы цёмныя. .

ЛЯВОН КРУЧКОЎСКІ.

# Нашто мужыкам школа.

(Урывак з разьдзелу повесьці **„Кордыян і хам“** *)

Даём тут урывак з аповесьці буйнейшага польскага пралетарскага пісьменьніка, Лявона Кручкоўскага.

Мы далёкія ад становішча „Нёманаў“, „Шляхоў моладзі“ і т. п., якія ўмеюць аб'яднаць у сваёй дзейнасьці штодзённае супрацоўніцтва з ворагамі беларускага народу, з сеяньнем шавіністычнае атруты сярод масаў. Мы лічым, што ўсе тыя культурныя цэннасьці, якія ствараюць пралетар'ят і сялянства Польшчы на шляху барацьбы за сваё вызваленьне, зьяўляюцца для нас блізкімі, дапамагаючымі і нам, працоўным масам Заходняй Беларусі, у нашай барацьбе за лепшую будучыню.

Прысваеньне гэтых цэннасьцяў беларускімі масамі і збліжэньне з культурнай творчасьцю працоўных Польшчы, адна з мэтаў нашага часапісу.

Р.

**Ад аўтара.**

„Нятолькі Казімер Дэчынскі ёсьць гістарычнай фігурай, а жыцьцё яго, у гэтай кнізе апісанае — аўтэнтычнае; „Кордыян і Хам“ зьяўляецца ў цэласьці дакумэнтальнай аповясьцяй.

... Успаміны — днявік Дэчынскага сталіся крыніцай думак і падставай акцыі ў гэтай аповясьці. Прызнаюся, што мамэнтам, каторы ў іх зацікавіў мяне найболей, была гэта выразная на яго старонках выяўленая клясовая сьвядомасьць аўтара. Гэты мамэнт — гэта сувязь актуальнасьці, сувязь паміж сягоньняшнім днём, а „гістарычнай“ тэмай гэтай кнігі.

Лявон Кручкоўскі.

... Здавалася, што пан Чарткоўскі абыякава разглядаўся па школьнай хаце. З поўнага, красуючага здароўем і сілай твару, з-над тоўстых, нахмураных брывей блішчасты і цяжкі ягоны пагляд перабягаў па лаўках, па напружаных у задуменьні тварыках сялянскіх дзяцей, блудзіў на выбеленых так-сяк сьценах і нарэшце на хвіліну спыніўся на белай квадрато-

*) Leon Kruczkowski „Kordjan i Cham“, wydanie II, „Gebethner i Wolf“, Warszawa, 1933 г.

вай дошцы, што вісела недалёка дзьвярэй і была запоўнена роўнымі радамі цыфраў.

— „Таблічка множаньня“ — прачытаў шляхціц надпіс, прыгожа зроблены пяром каліграфа — А, гэта дык цікавасьць!.. „Таблічка многожаньня“ для хамаў!.. Штукары, даль-бог-жа, гэтыя з кіраўніцтва школьнага!.. Ой, штукары!

Гэтыя спасьцярогі не перашкодзілі яму, аднак, уважліва прыслухоўвацца да слоў настаўніка.

Казімер-жа чытаў далей; чытаў неяк дзіўна, неяк захутка ці заціха.

— „Хоча ад цябе Бог, каб ад самай маладасьці прызвычаіўся ты да жыцця рабочага. Працавіты чалавек захоўвае і памнажае сваё здароўе, з большым смакам, спажывае ежу і яна ператвараецца ў добрую кроў. Адпачынак і сон пасьля працы яму нявымоўна мілыя, жыцьцё яму ня брыдне і дні бяз суму мінаюць, З радасьцью ў сэрцы цешыцца ён тым, што зроблена ім, на выніку працы свае на дастатак у хаце“...

І яшчэ, быццам астаткам голасу, — „Божа! Дай мне вечную агіду да гультайства шкоднага, падтрымай любоў да тэй працы, якую ты мне маім станам прызначыў!“

Скончыў ці можа толькі спыніўся і кніжку на стале палажыў.

— Прыгожыя, сапраўды, і разумныя словы! — неўспадзеўкі сказаў пан Чаркоўскі і кіўнуў галавой у знак прызнаньня. — Справа, аднак, у тым, пане настаўнік, каб моладзь іх усвоіла добра, чуеш... і каб глыбока захавала ў сэрцах!

— У гэтым-жа і ёсьць мая задача! — адказаў Казімер голасам які здэцца недзе глыбока завяз у горле. І адразу, неяк раптам, зьвярнуўся да лавак.

— Борчык Ясь! — выклікаў голасна.

Падняўся хлапчук у цеснай, выцертай куртачцы і падняў на вучыцеля вочы, вадзяніста-сьветлыя і вытрашчаныя.

— Скажы ты мне, Ясь, працаваць ты любіш?

Маўчаньне. Вытрашчаныя вочы пачалі міргаць павекамі, што азначала напружаньне думкі.

— Ну, гавары... Любіш?

— Хіі... хаця-б і ня любіў!.. Мус!

— А хто-ж зрабіў гэты самы мус?

— Хто? Ды татка!

— Дурань!—умяшаўся пан Чарткоўскі. — А ён сам хіба-ж не працуе?

— Нібы татка?.. Працуе, а як-жа... і нямала!—асьмеліўся хлопец.

— Бачыш! А хто-ж гэта яму працаваць загадвае?

— Ужо-ж, найболей дык пан Фэльс, аканом...

— Дурань! — крыкнуў шляхціц. — Ніякі Фэльс, а толькі Бог!.. Чытаў-жа вам тут настаўнік, што працаваць Бог кажа!.. Чуў?

— Чуў, пане вяльможны... — адказаў хлопец, зьмяшаны дарэшты. Глядзеў на шляхціца няпэўным, аслупелым зрокам.

— Ну, дык запомні гэта добра... і вы ўсе! — напомніў пан Чарткоўскі крыху ласкавейшым тонам. — Натое прыходзіце сюды ў школку, каб абавязкі свайго стану добра пазнаць і зразумець!.. Каб і цяпер які ў будучыні не адважваліся Бога гультайствам гнявіць!..

Казімер стаяў побач, скамянелы і зьбялелы ад абурэньня. Мутнымі вачыма бачыў перад сабой тоўсты, наліты крывёй і вусаты твар пана Чарткоўскага. — Нейкія словы казыталі горла, пякучыя, неспакойныя...

Першы раз з жахлівай выразнасьцю зразумеў — востры, злавешчы сэнс справы — таго, што душыць, што дапякае нязносна, што праймае жалем, гневам... Дык натое ён, Казімер, тут, у гэтай школе... І гэтыя кніжачкі... І гэтае прыгожае друкаванае слова — н а т о е!

Пацямнела ў вачох... Твар арандатара ўсьцяж маячыўся перад імі: тоўсты, набраклы і вусаты.

Але, іменна, сам пан Чарткоўскі павярнуўся да століка кароткім чверцьабаротам атылага корпусу.

— Ці гэта... зараз канец гэтай навукі? — запытаўся з лёгкай нецярплівасьцю ў голасе.

Казімер уздрыгнуў... Так, трэба скончыць!

— Сапраўды... — салгаў ня думаючы. — Сёньня на гэтым скончыць я акурат і зьбіраўся, вяльможны пане!

— Ну, дык добра... канчай, асане! — згадзіўся шляхціц, не ўстаючы з зэдліка.

Казімер даў рукой знак. Чарада галоў сарвалася з лавак.

— У і-мя ай-ца і сы-на і ду-ха сьвя-то-га а-ман! — разняслося хорам пад нізкай стольлю хаты. Пасьля адкрычалі няроўна, зацяжна: „Ойча наш“ і „Здровась-Марыя“.

І нарэшце.

— Нех бэн-дзе па-хва-лё-ны Е-зус Хрыстус! — закончылі выкрыкам нязьмерным і зараз пачалі вышмульгваць з лавак, штурхаючыся і зьбіваючыся ў натоўп ля дзьвярэй. Нарэшце выскачылі ў сені і — на двор.

— Уф, душна тут! адсапнуўся пан Чарткоўскі, паглядаючы скоса на вучыцеля.

— Хата цесная, вяльможны пане... але мы прывыкшы!

— А чаго-ж ты хацеў-бы асане, палацу для гэтай школкі, га?

— Дык я ні кажу, вяльможны пане... мы прывыкшы ў цеснаце...

— Я, слухай, шчыра кажу; гучэў не захапляюся гэтак асьвятай сялянскіх дзяцей, хаця-б толькі і ў чытанькі ды пісаньні... зрабіць гэта можа ў краю непажаданыя вынікі, завярнуць людзей, да гэтуль спакойных, на сьцежкі небясьпечныя... слухай, да спэкуляцыі, крыніца якой у кніжках... так, і пашырыць уяўленьні неадпаведныя нашым грамадзянскім адносінам.

Гаварыў гэта Чарткоўскі, быццам таксабе, мімалётна; але ў ягоным, голасе чуют тон асаблівы, многазначны. Гаворачы, усьцяж глядзеў з-пад нахмураных брывей на Казімера, глядзеў быстра, пранікліва...

— Усё-ж такі нельга запярэчыць, вяльможны пане..

— А ўжо зусім не разумею, на якое ліха ў вашай школе вось хоця-б гэтая самая „Tabella Pythagorica“ на сьцяне!

— Служыць яна для навукі лічэньня і арытмэтычных дзеяньняў, якія залічаны да найпрасьцейшых і кожнаму ў жыцьці штодзённым прыдацца могуць...

Пан Чарткоўскі пырскнуў рубашным сьмехам.

Дальбог, зразумець мне цяжка, на што гэта мужыку арытмэтыка. што ён будзе лічыць?.. Хіба дзетвары купу, ой, гэта дык яны патрапяць!. На што яшчэ згадзіцца магу, дык на гэтую самую навуку звычаёвую, карыснасьць і патрэба якой ніякага сумніву ня выклікаюць!. Тое, што асан сёньня чытаў, падабалася мне і вельмі!

Сьцябанулі Казімера гэтыя словы, кальнулі, як хігра кінутае асьцё.

— Разумею, што гэта... магло вельмі падабацца вяльможнаму пану, — прагаварыў прыдушаным голасам.

Пан Чарткоўскі блісънуў вачыма з-пад насупленых брывей. Пасьля ўхмыльнуўся едка

— А мне тут пра асана расказваюць, што ты дарадчык сялянству і прыяцель гарачы, га?.. Дык ведаць павінен, як вельмі ім патрэба гэтай.. навукі звычаёвай!

— З сялян, я, вяльможны пане...

— Ведаю, ведаю... але заўсёды-ж тваё становішча грамадзянскае, пане настаўнік, іншае цяпер ужо!.. Іншыя правы, разумеецца... іншыя таксама абавязкі!.. Так, абавязкі!

Казімер маўчаў. Прыглядаўся з напружанай увагай у ганарысты (stateczny) твар шляхціца. Пачынаў цяпер адгадваць сапраўдную мэту ягонага зьяўленьня ў школе.

— Калі ўжо школы на вёсках урад закладае і падтрымлівае — працягваў пан Чарткоўскі — дык ведама-ж не для нейкіх вальнадумных вымыслаў, а з прычыны розных хібаў ды звычаяў дрэнных нашага вясковача люду, як гультайства, упартасьць, нешанаваньне чужой уласнасьці...

— Ня маючы свае, цяжка чужую шанаваць, вяльможны пане!

Пан Чарткоўскі жвава паварушыўся на зэдліку.

— Уга! Асан мне напяваеш, зусім, як бунтаўшчык які-небудзь!.. Бачу, што нядарма гавораць аб табе, як аб падбухторшчыну тутэйшых сялян!..

Казімер пабляднеў. Быў гатовы і амаль што чакаў гэтых слоў — але, калі яны вырваліся з вуснаў шляхціца, зразумеў раптам усё іх цьвёрдае, злавешчае значэньне...

**Пераклаў Эст.**

---

**А. Л-СКІ.**

# У вастрозе.

Мур і жалезныя краты
Вечныя мне старажы;
Вее з іх холад магільны,
Чуюцца стогны душы.

Сьвет мне зачынены кратай,
Воля — жалезным замком.
Думкі на волю ірвуцца —
Праўды і сьвету лаком.

Цягнуцца дні тут бязконца,
Ночы страшнейшы яны.
Сэрца ня знае спакою —
Вобразы лезуць з сьцяны.

Цёмная ночка надыйдзе
Магільным усё спаў'е сном
Мілыя вобразы сьняцца —
Воля і зьдзек там кругом.

**ПЯТРУСЬ ГРАНІТ**

# КАВАЛЬ.

— Гэй каваль, распальвай горын!
Будзем строіць новы плуг,
З лемяшом сталёвым, новым,
Пасьля пойдзем араць луг. —

І работа загудзела,
Чуцён стукат малатка.
Іскра з шумам адляцела —
Будзе плуг для мужыка.

Гне жалеза на кавадлі,
Валіць молатам каваль.
Пот цячэ, а ён заядла
Робіць із жалеза сталь.

— „Плуг гатоў. Бяры яго ты,
Ары дзікі наш дзірван;
І паддай другім ахвоты
Успульхняці свой загон“.

**Ю. Б—а.**

* * *

Хай доля халоднейша мура,
У стократ хай будзе панура!
Ня песьняй пакуты да сьвета
Ўсіх кліча працоўны паэта!

Бадзёраю песьняй, як хвалі
Йдуць з вясною, і сонцам вясны,
Бадзёра сьпяваць, каб ўставалі
Беларускай зямелькі сыны.

Сьпяваць, каб гучэлі прасторы,
Каб тысячы думак да сонца!

На справе да кожнай разоры
Ляцела зярнё — і ў ваконца

Каб ведаў сярмяжнік, рабочы,
Што воля і сьвет — гэта бура!
Пра буру паэты пяюць, —
Хоць доля халоднейша мура.

Дык і песняй бадзёрай, як хвалі
І з вясною і сонцам вясны, —
Мы будзем сьпяваць, каб ўставалі
Беларускай зямелькі сыны.

**У-Р ШЧЫРЫ.**

# Дзяўчыне.

Помніш вечар зімовай парою,
Я прышоў к табе з смутнай душой.
Думкі поўныя смутку і мрояў..
Твае вочы зіялі красой.

Да грудзей да тваіх прытуліўшысь
Я у вочы бы ў зоры глядзеў.
У той час злыбяды ўсе забыўшысь
Пры табе раз астатні сядзеў.

Пацалункам сваім распаліла
Ў мяне у грудзёх жар каханьня.
Але ты, даражэнька забыла:
Прышоў к табе-ж на разьвітаньне.

Дык прашу, ўспомні тую часіну,
Ўспомні ты пацалункі твае.
І у гэтую-ж саму хвіліну
З табой думкі сальлюцца мае.

Сакавік 1932 г.

**А. РЭДЗЬКА.**

# М Ы.

Мы — скрыўджаных напраўдай струны,
Адным распалены агнём.
Мы гімн пакуце граем сумны
І славу барацьбе пяём.

Натхненьне нашае ў змаганьні,
Да сьпеваў новага жыцьця.
Мы ўсе пяём аб сьветлым раньні
З юнацкіх сэрц, із пачуцьця.

І ў барацьбе, віхры агністым
Акрэпнем сэрцам маладым.
Размахам - песьняй пяруністай
Мы перамозе зложым гімн.

11.IX—32 г.

**МІХАСЬ ЛІСТ.**

* * *

Што ты, Нёман, зьвіхраваўся?
Што так стогнеш? і равеш?
На каго так узлаваўся,
І каму пракляцьця шлеш?
Можа лемента галодных
І адвечнай нэндзы, сьлёз
Ў гарадох і вёсках родных
Нёман, ты не перанёс?
Ціха, дзед, ня дэнэрвуйся —
Серца ўнука — моцны гарт
Выціраць слёзы вазьмуся
Я і многа нас — ня жарт!

**Н. ЖАЛЬБА.**

* * *

Акрыльвай думку ты сваю,
Імкнісь на сустрач сонцу.
Сьпявай ты песьню пра зямлю,
Дзе жаль і сум бязконца.
Ты помні крыўды, помні зьдзек,
Щто з малку дзён над намі
Шукай на ўсе балячкі лек,
Ня йдзі дзядоў сьлядамі.
Змаганьнем знач свой кажды шаг,
Грымі аб перамогу.
Магутны гарт ты май ў грудзях,
Зьнімай з душы трывогу.
За праўду сьветлую ў жыцьці
Аддай свае ўсе сілы
І гэтым шляхам ты ісьці
Прысягні да магілы.

27. IX—1933 г.

**К—с.**

# Плача восень.

Плача восень дажджавая,
Сьвішча вецер ў камінох,
Гнецца ў крук душа жывая,
Жудка, сьцюдзенна, аж страх!
Хаты плачуць потам шыбаў
Прытуліўшыся к зямлі,
Што ў вакне ў дзясяткі згібаў
Ўніз руччамі пацяклі.
Толькі дзьверы злосным скрыпам
Долю горкую клянуць,
Калі дзед ідзе па лыка
Страку ў лапцях зацягнуць.

# Літэратурны фронт.

МІКОЛА ЗАСІМ.

## Прашу слова!

Да майго шчыра-сялянскага юнацкага сэрца моцна прамовіла „Беларуская Газэта“, на старонках якое адбіваецца сапраўднае жыцьцё заходня-беларускіх сярмяжных гушчаў і здрада ганебных угадоўцаў Луцкевіча ды Станкевіча. З гэтымі здраднікамі я нічога супольнага ня маю і мяне абурае, што „Родны Край“ усьцяж зьмяшчае без дазволу мае вершы, якія трапілі туды цераз рэдактара „Кутка“ Хвёдара Ільляшэвіча. Я катэгарычна і раз назаўсёды забараняю гэтаму рэдактару зьмяшчаць мае вершы ў „Родным Краі“, старонкі якога ад пачатку да канца завалены паклёпамі на Савецкую Беларусь, дзе будуецца Беларускі Дом рабоча-сялянскае культуры. Свае здольнасьці я аддам толькі працоўным Заходняй Беларусі, часткою якіх сам зьяўляюся.

Сябры паэты-самародкі, саматужныя песьняры фабрык і палёў Заходняй Беларусі! Усе, хто пад прычытаньне хворых мацярэй і жонак, пад крык абадраных і галодных дзяцей, пры сьвятле закарузлае сьвечкі або „дапатопнае“ лучыны вылівае свае пачуцьці на паперу — **за мной у „Літстаронку“!**

в. Шэні пад Пружанай.
28 лістапада 1933.

---

ФР. ГР.

## „Мастацкая літэратура Грамады“.

Пад такім загалоўкам Алесь Салагуб надрукаваў даволі цікавую стацьцю ў першай кнізе менскае часопісі „Полымя Рэвалюцыі“. Тэма стацьці заслугоўвае сапраўды апрацаваньня і то апрацаваньня ўсебаковага і вычэрпываючага. У сталіцы вызваленае Беларусі, Менску, гэтую апрацоўку правясьці можна і трэба. Стацьця Ал. Салагуба, на вялікі жаль, дае нам толькі маленечкія адломкі таго аграмаднага літэратурнага багацьця, якое называецца „Мастацкая літэратура Грамады“ — і то дае нам толькі адломкі, прасеяныя праз сіта цэнзуры. Алесь Салагуб бярэ свой матэр'ял з грамадаўскае прэсы і толькі. Якраз ад Ал. Салагуба можна чакаць было,

што ён не абмежыцца толькі тым скромным, якое змагло паказацца на бачынах грамадаўскае прэсы. Думалася, што ён пачне чэрпаць з таго аграмаднага і буйнага запасу, які ў вуснай форме, ня бачыўшы зусім сьвету праз друк, жыве і крэпіць душы працоўных гушчаў Зах. Беларусі. Гэта сапраўды называецца „Мастацкаю літаратураю Грамады“ — а не тыя шчасьлівыя пяць — шэсьць вершыкаў, якім пашанцавала пралезьці на старонкі газэт. Сягоньня, кожны б. грамадзіст, пры кожнай паважнейшай нагодзе, з прамэтэяўскім запалам, дэклямуе дзесятак вогністых мастацкацэнных вершаў. Шкода, што Ал. Салагуб усё гэта прапусьціў, бо яно-ж якраз найгалаўнейшае ў гэтай тэме. Можна было даць поўныя тэксты тых лёкальных грамадаўскіх гімнаў, якія ў розных паветах Зах. Беларусі ёсьць розныя, але ў цэласьці адзіным, адналітым і прыгожа-творчым. Хай сабе, прынамся, віленскі грамадаўскі гімн, які, напэўна, павінен быць ведамы Ал. Салагубу, знайшоў-бы сабе мейсца ў ягонай стацьці.

Увесь аграмадны мастацкі матэр'ял грамадаўскага пэрыяду чакае яшчэ поўнае апрацоўкі. Добра будзе, калі нехта за гэта дзела возьмецца, бо ён заслугоўвае на гэта.

# Адказы рэдакцыі.

*М. Васілёк — Гарадзеншчына.* Вашы творы атрымалі Шчыра дзякуем. Паэма „Арлы“ і другія рэчы па магчымасьці будзем друкаваць, пачынаючы з наступнага номера, бо мы проста завалены матэр'ялам — каля сорак сяброў прыслала свае творы. Просім прыслаць працяг паэмы. Адносна зьместу вашых твораў, дык сьцьвярджаем факт рэзкага пералому ў дадатні бок. Цяпер Вы занялі ясную пазыцыю. Жадаем посьпеху!

*Павал Сошка — Слонімшчына.* Просім цесную з намі трымаць сувязь. Прышлеце свае творы.

*Міхась Ліст — Лідчына і А. Л-скі — Дзісеншчына.* Здольнасьць пісаць Вы маеце. Радзім як найболей чытаць вершы Купалы, Коласа ды іншых паэтаў працы.

*Анатоль Іверс — Слонімшчына.* Пытаеце, ці варта пісаць? Адказваем, што нават павінны, бо маеце здольнасьць. Просім лічыцца з цэнзураю. Чакаем на далейшыя працы.

*Агонь — Пружаншчына.* Просім прыслаць паважнейшыя творы. Больш працуйце над сабой: карацей, але ясьней.

*А. Квелюк — Наваградчына.* Вы нас проста завалілі сваімі творамі. Вы так многа напісалі ў дадатак вельмі неразборчыва, што мы ня ўсьпелі ўсяго разглядзець і належна ацаніць. Па прачытаным намі матэр'яле судзім, што Вы маеце здольнасьць пісаць, улічваючы Ваш зусім малады век, толькі

трэба Вам яшчэ многа працаваць над сабою. На пачатак Вам адна парада: пішэце меньш, але лепш апрацоўвайце. І папраўце хаця трохі характар пісаньня.

*Улацкі.*—„Разьвязка Рыгора“ магчыма што пойдзе ў другім номеры. Прышлеце больш што.

*Н. Жальба — Наваградчына.* Пісаць можаце, толькі будзьце добры не „адрывайцеся ад зямлі“, не ўцякайце з яе, а апісвайце ўсё тое, што дзеіцца на гэтай-жа зямлі. Паэт працы ня лётае па небясах, але нага ў нагу ідзе з працоўнымі. Чакаем далейшых Вашых твораў.

*П. Граніт — Лідчына.* Просім пісаць менш, але напісанае лепш апрацоўваць. Значэньне ня ў колькасьці, а ў якасьці напісанага. Усьведамляйцеся — чытайце.

*А. Рэдзька—Дзісеншчына.* Вы шмат прыслалі нам матэр'ялу. Пісаць наагул можаце, толькі трэба лепш апрацоўваць. Чакаем далейшых прац.

*Я. Каласок.* — Многа трэба Вам чытаць і ўсьведамляцца. Прысланае ня пойдзе да друку. Мо' маеце што лепшае?

*Г Прамень, Струмень, М. Куколь, С. Шаўка, Антсем, А. Нядоля, В. Лебедзь, М. Качка, М. Гаварок.*—Радзім Вам усім, сябры, пачаць сваю літэратурную работу с пісаньня ня вершаў, а карэспандэнцыяў аб жыцьці з сваіх ваколіц. Дык, за пяро і папер ды да працы!

*Я. Асот — Вялейшчына.* Прышлеце больш сваіх твораў, тады дамо адказ.

*У-р Шчыры — Ашмяншчына.* Сьцьвярджаем у Вас паправу. Сьмялей за працу.

*Рыгор Коршун.* — Прачытайце ўсе нашы рэдакцыйныя адказы і да некаторых указаньняў прыстасуйцеся. Карацей, але ясьней.

*Грыц Паэтык — Зах. Украіна.* Слаба, пачнеце, сябра, з карэспандэнцыяў працаваць на літэратурным фронце.

*Уладзімір Міралюбаў — Гарадзеншчына.* Зьвярнеце ўвагу, сябра, на форму і зьмест друкаваных твораў у нашым часопісе. Ляпей пішэце прозай, у Вас яна ляпей выходзіць.

*Янка Румянка.*—Шчыра вітаем Вас на вашым выгнаньні і заклікаем цьвёрда стаяць на Вамі выбраным шляху. Літэратурныя здольнасьці Вы маеце і радзім Вам, паміма цяжкіх варункаў жыцьця, больш працаваць над сабою ў літэратурным напрамку. Прысылайце свае творы і наагул трымайма сувязь, каб супольнымі сіламі самаадукавацца. Прывітаньне Вам ад нас.

У. *Т. — Баранавіччына.* Пісаць можаце. Ляпей апрацоўвайце. „Псыхічны крызыс беларускай інтэлігэнцыі“ ня пойдзе—мыльны пагляд. Наагул, радзім пакуль што такімі рэчамі не займацца. Апісвайце лепш жыцьцё, якое кругом Вас.

*Фр. Грышкевіч.* — З прысланага матэр'ялу па меры магчымасьці будзем выкарыстоўваць усё тое, што мае вартасьць. Належную ацэнку Вашых твораў дамо ў наступным номеры.

*Да ўсіх іншых сяброў.* — Каму цяпер не далі адказу, дамо ў наступным номеры. Радзім дакладна, пакуль што, прачытаць нашыя адказы бо шмат каму з Вас трэба сказаць тое, што ў іх даём другім. Заклікаем пісаць і супрацоўнічаць.

# У віры жыцьця.

☛ Як падае прэса ў хуткім часе Мін. П. і Т. мае намер абнізіць аплату за пераасылку звычайных лістаў і экспрэсаў ды аплату за некаторыя тэлефонічныя размовы.

☛ У Індыі было землятрасеньне. Згінула 30 асоб.

☛ 15 г. м. распачалася 78 Сэсыя Рады Лігі Народаў пад старшынством польскага міністра Загр. Спраў Ю. Бэкка.

☛ У Францыі здарылася вялікая катастрофа самалёту, падчас якой згінула 10 асоб. Самалёт гэты лётаў 300 клм. на гадзіну.

☛ У Лодзі ў фабрыцы „Гэнтлеман“ выбухла катастрофа. Згінула тры рабочыя. На хаўтурах было прысутных вялікая колькасьць рабочых.

☛ У Быдгашчы зладзеі абакралі пракурора Пшыбыльскага.

☛ Як піша ўся польская і іншая прэса ў Беластоцкім ваяводзтве ад палавіны сьнежня бастуюць лясныя рабочыя. Дамагаюцца падвышэньня платы і іншых драбнейшых палёгкаў. Гаспадары лясоў ужо падвышаюць плату на 40 прац.

☛ Бюджэт С.С.С.Р. на 1934 г. выказвае па старане прыходаў 48 мільярдаў 700 мільёнаў рублёў, па старане-ж выдаткаў 47 мільярдаў 200 м ільлёнаў.

☛ Між Парагваем і Балівіяй (дзяржаўкі Паўднёвай Амэрыкі) усьцяж цягнецца вайна. Пэрамагаюць парагвайцы.

☛ „Kur. Wil.“ алярмуе вялікім артыкулам у № 15 з г. г. аб страшэннай пагрозе голаду на Віленшчыне.

☛ Даляр усё танее. 17-І 34 г. плацілі за яго 5,35 зл.

☛ Едучы ў Мадрыт (Гішпанія) на пасаду амбасадара С. С. С. Р. у дарозе памер б. камісар асьветы С.С.С.Р. Анатоль Луначарскі.

☛ Як падаюць газэты ў Сав. Беларусі арыштаваны Дварчанін, Гаўрылік і іншыя. Абвінавачваюць у шкодніцкай рабоце.

☛ Прэса ўсяго сьвету апісвае шырока справу дэфраўдацыі 400 мільёнаў франкаў дзяржаўных грашэй Ставіскім і яго кампанамі. Замяшаны ў гэтую справу міністар падаўся ў адстаўку.

Выдавец і рэдактар: Янка Патаповіч.

Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34 — 8.

# Ад адміністрацыі.

Заклікаем усіх грамадзян Зах. Беларусі, у першую чаргу моладзь з яе авангардам — пісьменьнікамі-самародкамі, падтрымаць нас матэр'яльна, дапамагчы ў вялікай справе пачатай намі работы. Кожны пісьменьнік-саматужнік павінен зьяўляцца гарачым кольпартэрам нашай часопісі. Верым, што нашыя надзеі паложаныя на іх, збудуцца.

